Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
Выдаецца са снежня 1994 года
№ 18 (1047) 30 красавіка 2020 года.
Кошт свабодны.

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by
vglybokaye.by

# Вольнае Глыбокае

















## Аб правядзенні творчага конкурсу на лепшы дызайн-макет эмблемы «Глыбокае – здаровы горад»

Людміла Катовіч,
*фельчар-валеолаг, Глыбоцкі РЦГЭ.*

**Творчы конкурс праводзіцца ў рамках рэалізацыі праекта «Глыбокае – здаровы горад». Конкурс праводзіцца ў перыяд з 20.04.2020 па 11.05.2020.**

Удзельнікі конкурсу – установы адукацыі, арганізацыі, прадпрыемствы горада і раёна, усе жадаючыя. У конкурсе могуць удзельнічаць калектыўныя працы. Да дызайн-макету эмблемы прыкладаецца інфармацыя - тлумачэнне.

Азнаёміцца з палажэннем аб правядзенні творчага конкурсу, можна на інфармацыйных рэсурсах арганізатараў: на афіцыйным сайце ДУ «Глыбоцкі раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі» ***sanglub@vitebsk.by*** у раздзеле «Глыбокае – здаровы горад» і на сайце Глыбоцкага раённага выканаўчага камітэта ***http://glubokoe.vitebsk-region.gov.by/ru/glubokoe_zdorovy_gorod.***

Дызайн-макет, які набраў у суме большую колькасць галасоў пры грамадскім галасаванні і па ацэнцы журы прызнаецца пераможцам конкурсу і стане афіцыйнай эмблемай праекта «Глыбокае – здаровы горад».

Вынікі конкурсу будуць апублікаваныя на сайце Глыбоцкага райвыканкама, і ў раздзеле «Глыбокае – здаровы горад» на сайце ДУ «Глыбоцкі раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі», а гэтак жа ў раённых газетах «Веснік Глыбочыны» і «Вольнае Глыбокае».

Удзельнікі конкурсу, якія занялі першае, другое і трэцяе месцы ўзнагароджваюцца дыпломамі і памятнымі падарункамі арганізатараў.

Пры вызначэнні лепшых работ ацэньваюцца арыгінальнасць падыходу, мастацкая выразнасць, паўната раскрыцця тэмы.

Па пытаннях удзелу ў раённым творчым конкурсе на лепшы дызайн-макет эмблемы «Глыбокае - здаровы горад» можна звяртацца па тэл. Глыбоцкага РЦГЭ (Кантакты: **Катовіч Людміла Іванаўна**, тэл.: 5-65-83, **Зяньковіч Анастасія Леанідаўна**, тэл. 5-65-84).



## Шэсць з дзевяці пацыентаў з COVID-19 пасля пералівання донарскай плазмы пайшлі на папраўку

**Шэсць з дзевяці пацыентаў з COVID-19 пасля пералівання плазмы людзей, якія выздаравелі, пайшлі на папраўку, паведаміў сёння журналістам намеснік прэм'ер-міністра Ігар Петрышэнка пасля наведвання РНПЦ трансфузіялогіі і медыцынскіх біятэхналогій, перадае карэспандэнт БЕЛТА.**

«У нас ёсць хоць і невялікая, але станоўчая практыка. Паводле даных на ўчора, дзевяці пацыентам мы ўвялі плазму людзей, якія выздаравелі, і шэсць з іх сапраўды пайшлі на папраўку», - сказаў Ігар Петрышэнка.

Антыцелы супраць віруса, якія ўтварыліся ў крыві донараў у выніку перанесенай інфекцыі, дапамагаюць спраўляцца з захворваннем іншым пацыентам, у якіх хвароба праходзіць у цяжкай і сярэднецяжкай форме.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка 23 красавіка на нарадзе аб першачарговых мерах па забеспячэнні ўстойлівай работы эканомікі і сацыяльнай сферы ва ўмовах сусветнай эпідэміялагічнай сітуацыі падкрэсліў, што людзі, якія перахварэлі на гэту хваробу, могуць дапамагчы ў лячэнні іншых. «Гэта наш «залаты фонд», гэта людзі, у якіх мы бяром кроў, робім плазму і лечым людзей. Людзям, якія перахварэлі, трэба ганарыцца, што яны выстаялі, а не баяцца, што пра іх нешта скажуць», - сказаў кіраўнік дзяржавы.

Паводле слоў Ігара Петрышэнкі, гэта абсалютна здаровыя людзі, ім двойчы трэба сказаць дзякуй: за тое, што справіліся з хваробай і што па сваёй ініцыятыве прыйшлі здаць плазму, каб дапамагчы іншым..

На сёння выздаравелі 1120 пацыентаў пасля перанесенага COVID-19. Як адзначыў намеснік прэм'ер-міністра, многія з іх з'яўляюцца патэнцыяльнымі донарамі плазмы і могуць аказаць садзейнічанне ў хутчэйшым выздараўленні тых пацыентаў, якія маюць у ёй патрэбу.

У Беларусі функцыянуе цэласная сістэма донарства, краіна поўнасцю задавольвае свае патрэбнасці ў крыві і яе кампанентах. Ідзе пастаяннае аснашчэнне лабараторый.

*БелТА*

ISSN 2077-8023



## Віцебская вобласць

# Пандэмія – суровы экзамен

■ Чэслаў Якубовіч.

**Спакойна жыць і весці звыклую дзейнасць сёлета ўсім людзям не толькі ў нашай краіне перашкодзіла складаная эпідэміялагічная сітуацыя.**

Услед за сталіцай яна найбольш пагоршылася ў Віцебскай вобласці, дзе ў сярэдзіне месяца выпадкі каранавіруснай інфекцыі выявілі ўжо ў 12 з 21 раёнаў Прыдзвіння. На той момант у свеце колькасць захварэлых перавысіла 2 млн. чалавек, а ў паўночным рэгіёне медыкам прыйшлося змагацца за здароўе амаль 850 землякоў. Гэта зараза паступова дабіралася і ў аддаленыя куткі вобласці, першы выпадак заражэння быў выяўлены ў Верхнядзвінску. На той момант было неспакойна ў маланаселеным Ушацкім раёне, дзе колькасць захварэўшых павялічылася да 8-мі чалавек. Аб 15 пацверджаных выпадках заражэння новым каранавірусам паведамілі ў Аршанскім раёне. Буйнымі ачагамі эпідэміі сталі Шумілінскі, Докшыцкі, Гарадоцкі раёны, не кажучы ўжо пра абласны цэнтр. У Віцебску перад гэтым штодзень фіксавалі па 280 выпадкаў пнеўманій, праўда, праз тыдзень абласны штаб пацвердзіў, што іх колькасць знізілася ў 2,5 разы. З павышанай нагрузкай паўсюдна прыйшлося працаваць медыкам, работнікам станцый хуткай меддапамогі і цэнтрам гігіены і эпідэміялогіі, адсочваць кантакты 1-га і 2-га ўзроўняў з інфікаванымі. Леташні пікавы ўрзовень вірусных інфекцый і пнеўманій быў значна перакрыты. У такі цяжкі час, на жаль, не ўсе грамадзяне выконвалі прадпісаны ім рэжым самаізаляцыі, а вадзіцелі-дальнабойшчыкі – каранцінныя правілы перамяшчэння па дарогах. Каб зберагчы сябе і блізкіх, большасці з нас належыла старацца не выходзіць з дому без крайняй неабходнасці.

## Докшыцкі раён

# Вірус не пацвердзіўся

■ Станіслаў Раманчук.

**Рэзкі рост вясной пнеўманій і пачатак пандэміі выклікалі пэўную трывогу ў беларусаў, а таксама і розныя чуткі.**

Вось і ў Докшыцах, дзе колькасць захварэўшых вырасла пад сто чалавек, многія загаварылі, што ў райцэнтры заразная хвароба магла пайсці з мясцовага прыгожага касцёла парафіі Найсвяцейшай Тройцы пасля вяртання нібыта манахаў з-за меншых капуцынаў з-за граніцы. На самой справе, як высветлілася потым, ніхто з іх за мяжу не выязджаў. Аднак 38-гадовы ксёндз моцна прастудзіўся, яго паклалі ў бальніцу з дыягназам пнеўманія. Страху ў людзей яшчэ больш дабавілася, калі ў шпіталь даставілі і захварэўшага манаха з сястрой манашкай. На шчасце, некалькі праведзеных тэстаў не пацвердзілі наяўнасць у іх арганізмах каранавіруса. Аднак у паўсядзённай дзейнасці ўсе яны мелі кантакты з мясцовымі жыхарамі, якія наведвалі абласную бальніцу ў Віцебску, дзе сапраўды назіралася ўспышка Covid-19. Ды і ў мясцовым храме спачатку на Богаслужэнні прыходзіла шмат людзей, з-за чаго захварэлі больш дзясятка прыхаджан. Медыкі ЦРБ дапамаглі хворым служыцелям касцёла і дваіх іх выпісалі з бальніцы яшчэ перад пасхальнай Вігіліяй. За імі пасля заканчэння курса лячэння выпісаўся са шпіталя і трэці захварэлы з Беларускай кустодыі гэтага манаскага ордэна. Хоць сітуацыя ў горадзе была няпростая і шмат хварэла жыхароў, дадатковую надзею людзям, што вірус адступіць, дадаў факт заміраточання іконкі ў мясцовай царкве. Аднак расслабляцца не было як, бо станоўчы тэст на каранавірус пацвердзіўся ў супрацоўніка санстанцыі.

## Пастаўскі раён

# Гарацць будынкі і не толькі

■ Кастусь Александровіч.

**З-за рэзкага павелічэння ў красавіку лясных пажараў і палаў сухой расліннасці ў большасці раёнаў Беларусі прыйшлося забараніць наведваць лясы.**

Да такой крайняй меры ў Пастаўскім раёне не дайшлі, хоць і тут стаў назіраццца рост вогненных здарэнняў. У адзін з веснавых дзён перад Вялікаднём у рэгіёне зафіксавалі адразу тры пажары. Спачатку ў райцэнтры перад абедам запалаў цагляны двухпавярховы дом даваеннай пабудовы, у якім размяшчающца два магазіны "Тэхнамір" і BAG STORE. На сігнал аб здарэнні пажарныя адрэагавалі хутка і не далі полымю разгуляцца. Пажар патушылі хутка, ніхто з жыхароў размешчаных тут 9 кватэр не пацярпеў. Аднак на гэтым непрыемнасці для супрацоўнікаў райаддзела не скончыліся. Праз чатыры гадзіны патэлефанавалі і паведамілі ім, што гарыць падобны жылы дом у аграгарадку Камаі. Яго 79-гадовая гаспадыня ў той момант была на вуліцы. Пасля ліквідацыі ўзгарання жанчына не магла стрымаць слёзы, бо ў адным з пакояў былі пашкоджаны вокны, дзверы і маёмасць, спатрэбіцца і рамонт усіх сцен кватэры. Самы буйны пажар у той дзень зафіксавалі са спазненнем у гарпасёлку Лынтупы. З-за дзіцячага свавольства з запалкамі, хутчэй усяго, і ўзнік там пажар. Падчас яго тушэння на закрытай малочнай ферме ўжо абваліўся дах і ўвогуле будынку полымя нанесла значныя пашкоджанні. Па злой іроніі лёсу, праз двое сутак пажарным зноў прыйшлося выязджаць па знаёмым адрасе ў цэнтры горада. Па вуліцы Чырвонаармейскай, дом 17, дзе яны змагаліся з агнём напярэдадні, цяпер з-за неасцярожнага абыходжання з агнём гарэлі ўжо павеці для захоўвання дроў. У гэтых памяшканнях агонь пашкодзіў дах і столь, а ў іншым згарэлі ўваходныя дзверы. Яшчэ трэці года не пражылі, а было зафіксавана ўжо 16 пажараў, на 4 болей, чым летась.

# Успышка каранавіруса і абвал сусветных цэн дапамаглі Беларусі заключыць часовае пагадненне аб пастаўках расійскай нафты




**Добра будзе ўсім, калі расійскія і беларускія перамоўшчыкі ў гэтым пытанні пойдуць на ўзаемныя кампрамісы, дамовяцца, бо ўспышка каранавіруса ўсё чалавецтва ўцягвае ў неверагодна цяжкі сусветны эканамічны крызіс. Ад яго пацерпяць і багацейшыя краіны свету, а Расія ўжо прайграла больш усіх і вымушана будзе злезці з нафтавай экспартнай трубы.**

■ Аляксандр Цішкевіч.

Перад найвялікшымі хрысціянскімі святамі сітуацыя з распаўсюджваннем каравіруса ва ўсім свеце стала трывожная. У нас спачатку вернікаў каталікоў папрасілі у гэты цяжкі час устрымацца ад наведвання касцёлаў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. Услед за ім тое самае зрабіў і мітрапаліт Павел, заклікаў праваслаўных пабыць дома і там маліцца, бо вірус перадаецца невядомымі шляхамі і ў храмах. Ды і як было людзям не ўстрывожыцца, бо гэту заразу выявілі ў 80 беларускіх дзяцей, а медыкі папярэдзілі ўсіх, што яшчэ два-тры тыдні запар штодзень будзе ў Беларусі павялічвацца па 340-360 выпадкаў і болей заражэння Covid-19.

Сусветная ж арганізацыя аховы здароўя таксама не абнадзеіла і папярдзіла, што пік масавых захворванняў асабліва ў Еўропе і ЗША яшчэ не пройдзены, а вакцыну супраць небяспечнай хваробы наўрад ці ўдасца зрабіць у бліжэйшы год. Беларускі лідар на адной з нарад заклікаў захварэўшых суайчыннікаў не апускаць рукі, заявіў, што ніхто не памрэ ад каранавіруса і абурыўся на расійскія СМІ, якія "плявузгаюць" і даюць пра нас "гадкую інфармацыю". На наступны дзень ужо на відэаканферэнцыі лідараў дзяржаў ЕАЭС А. Лукашэнка публічна папракнуў свайго маскоўскага калегу ў высокіх цэнах (127 долараў за тысячу кубаметраў) на пастаўляемы расійскі газ, калі сусветныя цэны на энерганосьбіты істотна знізіліся.

Безумоўна, ён справядліва так паставіў набалеўшае пытанне, бо ФРГ купляла газ у рускіх па 80 долараў, а блакітнае паліва качаць туды яшчэ далей. Увогуле нафтагазавая спрэчка, ці нават "вайна" цягнецца даўно паміж саюзнікамі, паколькі глава дзяржавы нагадваў пра гэта У. Пуціну яшчэ ў снежні 2018 года ў Санкт-Пецярбургу. Сёлета цэлы квартал доўжыўся ўжо нафтавы канфлікт, а беларускія НПЗ у студзенісакавіку знаходзіліся на галодным пайку. Менавіта нафта для Крамля – галоўны стратэгічны экспартны тавар. Аднак з-за пандэміі і пачатку сусветнага эканамічнага крызісу, выкліканага ёй, рэзкага падзення ў свеце цэн на нафту самі рускія апынуліся ў патавай сітуацыі, сутыкнуліся з вялікімі праблемамі і пайшлі нам насустрач.

Аднак і радавацца асабліва пасля аднаўлення такіх паставак нам асабліва не выпадае. Па-першае, яны былі заключаны толькі на адзін месяц красавік у аб'ёме 2 млн. тон па цане 4 USD за барэль. Сумна, што дасягнутыя дамоўленасці абодва бакі сталі трактаваць па-рознаму, што пацвердзіла наяўнасць няўзгодненых пытанняў вакол рынкавых цэн, экспартных пошлін і 5 долараў прэміі. Нашы маскоўскія партнёры спадзяваліся, што з цягам часу цэны на нафту пойдуць уверх. У патавай сітуацыі руския рашылі пастаўляць нам "чорнае золата", а далей падчас пастаўак адрэгуляваць цэнавое пытанне. Невыпадкова беларусы ў сярэдзіне вясны змоў замовілі некалькі танкераў нафты ад іншых замежных пастаўшчыкоў.

Добра будзе ўсім, калі расійскія і беларускія перамоўшчыкі ў гэтым пытанні пойдуць на ўзаемныя кампрамісы, дамовяцца, бо ўспышка каранавіруса ўсё чалавецтва ўцягвае ў неверагодна цяжкі сусветны эканамічны крызіс. Ад яго пацерпяць і багацейшыя краіны свету, а Расія ўжо прайграла больш усіх і вымушана будзе злезці з нафтавай экспартнай трубы па банальнай прычыне: нафты на планеце цяпер занадта шмат, попыт на нафтапрадукты, калі палова свету сядзіць на каранціне, мізэрны. Па гэтай прычыне і Беларусь ужо не будзе мець столькі валюты ад продажу іх за граніцу, як у папярэднія гады.

Да таго ж мы мелі ў такі няпросты час ужо закрытую ў аднабаковым парадку расійскую граніцу. Дасведчаны экс-глава Нацбанка Беларусі С. Багданкевіч нават папярэдзіў, што ад наступстваў эпідэміі каранавіруса айчынная эканоміка ў гэтым годзе можа ўпасці на 5-15 %. Асабліва вялікія цяжкасці чакае сярэдні і малы бізнес, а пацерпяць практычна ўсе беларусы, бо заказаў стане менш, знізяцца аб'ёмы продаж тавараў на асноўны расійскі рынак збыту, а ўслед за гэтым упадуць заробкі ў большасці работнікаў. Як бы ў нас не пачаўся рост беспрацоўя, калі ў суседняй Расіі чакаюць, што звыш 8 млн. расіян неўзабаве страцяць свае працоўныя месцы. З-за пагрозлівай сітуацыі з інфекцыяй менавіта РФ пайшла на месяц вымушанага прастою.

Добра будзе ўсім, калі расійскія і беларускія перамоўшчыкі ў гэтым пытанні пойдуць на ўзаемныя кампрамісы, дамовяцца, бо ўспышка каранавіруса ўсё чалавецтва ўцягвае ў неверагодна цяжкі сусветны эканамічны крызіс. Ад яго пацерпяць і багацейшыя краіны свету, а Расія ўжо прайграла больш усіх і вымушана будзе злезці з нафтавай экспартнай трубы ж у цяперашніх умовах на каранцінныя меры пайсці не маглі, бо эканоміка кволая і недастатковых золатавалютных рэзерваў, а даўгі вялікія. На жаль, гэта можа абярнуцца павелічэннем колькасці памерлых ад каранавіруса. У трывожнай абстаноўцы многія беларусы адэкватна зразумелі ўсю сур'ёзнасць сітуацыі, усвядомілі сваю асабістую адказнасць перад бліжнімі. Так людзі на галоўныя штогод Вялікодныя богаслужэнні збіраліся невялікімі групамі, многія перасталі адпраўляць дзетак у садзікі, не пускаць іх на заняткі ў школу, з-за чаго прадоўжылі школьныя канікулы. Вясной можам стварыць значныя запасы той жа нафты і запоўніць пад завязку ўсе свабодныя ёмкасці, а летам будзем спадзявацца, што гэта зараза пойдзе на спад.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5.ru

| | Чацвер 30.04.20 | | | | Пятніца 01.05.20 | | | | Субота 02.05.20 | | | | Нядзеля 03.05.20 | | | | Пд.04 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +4 | +5 | +11 | +7 | +3 | +7 | +13 | +10 | +8 | +9 | +18 | +11 | +8 | +9 | +16 | +11 | +7 |
| Ціск | 742 | 743 | 743 | 743 | 743 | 744 | 742 | 741 | 739 | 739 | 738 | 738 | 739 | 741 | 743 | 744 | 745 |
| Вецер м/сек | 3 | 5 | 5 | 4 | 3 | 5 | 4 | 3 | 4 | 3 | 3 | 4 | 3 | 3 | 4 | 2 | 2 |
| | Пн-У | У | У | Пн-У | У | У | У | У | У | Пд-У | Пд-У | З | Пд-З | Пд-З | Пд-З | Пд | Пд-З |
| Вільготнасць | 71 | 60 | 35 | 43 | 74 | 65 | 52 | 63 | 87 | 96 | 51 | 83 | 94 | 100 | 43 | 65 | 88 |

# Колькасць пнеўманій працягвае расці ва ўсіх рэгіёнах краіны — Мінздароўя



■ nn.by

Працягваецца рост колькасці пнеўманій ва ўсіх рэгіёнах краіны. Пра гэта заявіла на прэс-канферэнцыі намесніца міністра аховы здароўя Алена Богдан.

Цяпер у Беларусі задзейнічана палова з бальнічных ложкаў, зарэзерваваных для лекавання пацыентаў з каранавіруснай інфекцыяй, заявіла Алена Богдан.

Алена Богдан паведаміла, што рост колькасці пнеўманій назіраецца ва ўсіх рэгіёнах краіны, у той жа час у горадзе Віцебску іх колькасць стабілізавалася.

«Мы паставілі задачу максімальнага выяўлення і папярэджвання захворвання — усе пнеўманіі сёння мы расцэньваем, як каранавірусныя», — адзначыла Алена Богдан. Гаворка тут не пра ўлік іх як каранавірусных, а пра падыходы да размяшчэння пацыентаў, меры засцярогі медперсаналу і методыкі лекавання.

Паводле інфармацыі «Нашай Нівы» з месцаў, у многіх гарадах, сярод якіх Віцебск, Мінск, Лунінец, Стоўбцы, Докшыцы, Бешанковічы, Ушачы, колькасць пнеўманій значна, у разы, перавышае ўзровень мінулага года на той жа перыяд. У той жа час колькасць афіцыйна зарэгістраваных выпадкаў каранавіруснай інфекцыі пакуль значна меншая за колькасць выяўленых пнеўманій — хоць абсалютная большасць інфікаваных пераносяць COVID-19 без развіцця пнеўманіі, у палове выпадкаў нават бессімптомна.

Усяго пад лекаванне пацыентаў з каранавірусам вызначана каля 9500 ложкаў, больш за 600 з іх абсталяваныя апаратамі штучнай вентыляцыі лёгкіх, сказала Алена Богдан.

Усяго ў Беларусі прыкладна 70 тысяч бальнічных ложкаў і 2300 апаратаў штучнай вентыляцыі лёгкіх. Па гэтых паказчыках Беларусь адносіцца да групы самых забяспечаных у свеце краін.

У барацьбе з каранавірусам задзейнічана 18% ад агульнай колькасці дактароў і 18% ад колькасці сярэдняга медперсаналу, заявіла Алена Богдан.

Алена Богдан таксама ўпершыню ад імя Міністэрства прынесла спачуванні сем'ям памерлых ад каранавіруснай інфекцыі. Раней грамадскасць крытыкавала ўлады Беларусі за адсутнасць такіх слоў спачування.

## Дзень за днём

**Беларусь адчула рост каранавіруса. Сталічны РНПЦ "Кардыялогія" перадалі для хворых з пнеўманіяй. У 4 садках Мінска выявілі каранавірус. За 10 дзён беларусы раскупілі двухгадовы запас медыцынскіх масак. У Літве і Польшчы іх нашэнне стала абавязковым. Каранавірус можа выклікаць рост беспрацоўя. Расія перадала бясплатна беларусам 10 тысяч тэстаў на Covid-19. Беларусь дамовілася аб пастаўках нафты з 4 кампаніямі Расіі па 4 $ за барэль. Золатавалютныя рэзервы ў сакавіку знізіліся на 1 млрд. USD. Больш за 90 тысяч беларусаў сталі невыязнымі і праз тэрыторыю РФ. Парламент ратыфікаваў візавае пагадненне з ЕС. Зноў забаранілі наведваць лясы.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Глава МВФ К. Георгіева папярэдзіла, што з-за пандэміі каранавіруса сусветная эканоміка спынілася, сітуацыя стала горшай, чым падчас крызісу ў 2008 годзе.

**Англія.** Прафесар Н. Фергюсон заявіў, што абмежаванні з-за каранавіруса павінны захоўвацца 18 месяцаў, але асобныя з іх могуць быць зняты праз 3-4 месяцы каранціна.

**Польшча.** Прэм'ер-міністр М. Маравецкі папярэдзіў, што краіна знаходзіцца ў пачатку эпідэміі Covid-19, а сам пік масавых захворванняў чакаецца ў маі і чэрвені.

**Расія.** Глава Цэнтрабанка Э. Набіуліна заявіла, што месяц прастою будзе каштаваць эканоміцы РФ да 2 % ВУП, з-за падзення даходаў неўзабаве многім не будзе чаго есці.

**Сінгапур.** Краіну лічылі ўзорнай па свеце па эфектыўнасці мер барацьбы з каранавірусам без каранціну, але сітуацыя там стала рэзка пагаршацца і стала расці колькасць захварэўшых.

**Кітай.** Праз тыдзень пасля заявы аб спыненні эпідэміі Covid-19 і адмены каранціну ва Ухані ўлады КНР абвясцілі жалобу па 3,3 тысячах памерлых суайчыннікаў.

**ЗША.** У штаце Нью-Йорк пачалі капаць брацкія магілы, там зафіксавалі рэкордны ў свеце ўсплеск смерцяў ад каранавіруса, улады прызналі, што Covid-19 страшней грыпу ў 3 разы.

**Расія.** З-за росту пандэміі ў Маскве і вобласці ўвялі прапускны рэжым, на тыдзень спынілі працу большасці арганізацый, сталі не пускаць туды транспарт з рэгіёнаў РФ.

**Мексіка.** Краіна ўмяшалася і спачатку перашкодзіла заключыць пагадненне членаў АПЕК+ аб зніжэнні аб'ёмаў нафты, хоць Расія дамовілася з Саўдаўскай Аравіяй аб гэтым.

**Украіна.** Больш за 16 тысяч правак па "антыкаламойскім законе" паставілі пад пагрозу далейшае фінансаванне краіны з боку МВФ, алігарх пайшоў на шантаж прэзідэнта.

**Польшча.** З-за эпідэміі каранавіруса 10-ю гадавіну гібелі самалёта польскай эліты пад Смаленскам адзначылі сціпла, візіт у Катынь адклалі на больш позні тэрмін.

**Чэхія.** З-за дэмантажа помніка маршалу Коневу ў Празе СК Расіі распачаў крымінальную справу, хоць манумент установяць у Музеі памяці ХХ стагоддзя ў сталіцы краіны.

**ФРГ.** У пачатку вясны з-за каранавіруса адчувальна, на 38 % упаў рынак продаж немцам новых аўтамабіляў, падзенне прадоўжыцца, бо спынілася вытворчасць машын.

**Латвія.** Паліцыя ў Алуксне падчас пандэміі оштрафавала на 1000 еўра мужчыну, які рэгулярна парушаў устаноўленую сацыяльную дыстанцыю – 2 метры паміж людзьмі.

**Японія.** Калі чалавецтва не пераможа каранавірус, як папярэдзіў аргкамітэт летняй Алімпіяды-2020, то гэта можа адбіцца на правядзенні Гульняў у наступным годзе.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Астравец.** У групы з 15 будаўнікоў, прыехаўшых з Расіі, выявілі падчас каранціну каранавірус, да працы на ўзводзімай БелАЭС іх не дапусцілі і шпіталізавалі ў бальніцу.

**Мінск.** Вірус паказаў, як заявіў палітолаг А. Класкоўскі, маральную і не толькі гніль сістэмы, цынізм вышэйшай пробы, робячы "слабых" ахвяр пандэміі яшчэ і вінаватымі.

**Камунар.** У Буда-Кашалёўскую ЦРБ паклалі 39 жыхароў пасёлка, шмат дзяцей, якія мелі кантакты 1-гаўзроўню з захварэўшымі на каранавірус трэнерамі СДЮШАР № 4 Гомеля.

**Мінск.** Глава МЗС У. Макей пацвердзіў, што расійскія тэсты на каранавірус нам не патрэбныя, бо яны ненадзейныя, мы самі іх вырабляем і бяром з іншых краін.

**Столін.** У рэгіёне адбыліся 2 буйныя лясныя пажары на плошчы 250 гектараў, напружаная абстаноўка была яшчэ у 5 раёнах, за суткі ў вобласці патушылі 67 пажараў.

**Мінск.** Старшыня РСПіП А. Швец папракнуў Міністэрства эканомікі, што яно зацягвае прыняцце канкрэтных рашэнняў па падтрымцы бізнесу ва ўмовах каранавіруса.

**Дрыбін.** З-за веснавога палу ў вёсцы Крычаватка згарэла хата і 4 хлявы, падчас тушэння леташняй сухой травы апёкі рук атрымала 60-гадовая жанчына, патрапіла ў бальніцу.

**Мінск.** У клірыка царквы Пакрова Багародзіцы знайшлі каранавірус, паклалі з сям'ёй у бальніцу, астатнія святары пайшлі на самаізаляцыю, у сталіцы каранцінныя меры.

**Брэст.** ААТ "Савушкаў прадукт" паспеў да наступлення "каранцінных канікул" у Расіі праз суд выбіць даўгі гандлёвай сеткі Санкт-Пецярбурга, а малзавод № 1 Мінска – не.

**Мінск.** У сітуацыі пандэміі, як заявіў палітолаг П. Быкоўскі, пытанне з выбарамі вырашыцца ў апошні момант, зараз думаюць аб парадзе 9 мая, ён можа даць рост заразы.

**Ваўкавыск.** Услед за памерлым бацькам на наступны дзень адышоў у вечнасць на 47-м годзе жыцця ксёндз канонік Алег Дуль, пробашч мясцовай парафіі св. С. Косткі.

**Мінск.** Віцэ-прэм'ер І. Петрышэнка пацвердзіў, што урад Расіі забараніў вываз у Беларусь 115 тысяч рэспіратараў, вырабленых па кантракце ў Ленінградскай вобласці.

**Мядзел.** У 66-гадовага бацькі рэжысёра А. Курэйчыка пацвердзілі каранавірус пасля адпачынку ў санаторыі МУС на Нарачы, там ён заразіўся ад пенсіянера з Віцебска.

**Пухавічы.** У адным з дамоў гарпасёлка Свіслач сабутэльнікі распрачаліся, хто з іх пойдзе за дабаўкай і старэйшы з мужчын нажом забіў 32-гадовага жыхара Гродна, яго затрымалі.

**Кобрын.** Раніцай у райцэнтры ў ДТЗ разбіўся насмерць на сваім "Поршэ" 36-гадовы нямецкі дрэсіроўшчык сланоў К. Гертнер з цырка "Дзіва", які чакаў канца пандэміі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Лёзна.** На граніцы з Расіяй на трасе Р-21 ля вёскі Заольша запрацаваў кругласутачны санітарна-каранцінны пункт, увесь транспарт і кіроўцаў рэгіструюць і правяраюць.

**Наваполацк.** Каранавірусам заразіўся галоўны ўрач паліклінікі НПЗ "Нафтан" С. Чубрык, вірус падхапіў і мэр горада, пайшоў на самаізаляцыю, захварэлі 38 медыкаў у вобласці.

**Бешанковічы.** У закрытай труне пахавалі 57-гадовую работніцу раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Н. Літвякову, яна згарэла за 3 дні пасля выяўлення вірусняй пнеўманіі.

**Докшыцы.** У пачатку месяца зафіксавалі 85 пацыентаў на пнеўманію, 7 памерлі, сярод іх было некалькі хворых на каранавірус, першыя два выпадкі Covid-19 выявілі ў Паставах.

**Віцебск.** Абласная бальніца зрабіла за сайце дзяржзакупак заказ на партыю герметычных мяшкоў, падыходзячых па характарыстыках для памерлых ад каранавіруса.

**Лётцы.** Абласны штаб вырашыў задзейнічаць мясцовы санаторый для размяшчэння кантактных 1-га ўзроўню па каранавірусе, сітуацыя ў вобласці з Covid-19 стала складанай.

**Багушэўск.** На мясцовым спіртзаводзе тэрмінова наладзілі выпуск дэзінфікуючага сродку для апрацоўкі рук у 5-літровых ёмкасцях, цэх перавялі на кругласутачную работу.

**Орша.** Услед за абласным цэнтрам у горадзе забаранілі наведваць гарпаркі з-за каранавіруса, негатыўныя тэндэнцыі сталі праяўляцца ў эканоміцы, сферы паслуг.

**Сянно.** Кіравацьраёнам стаў 36-гадовы ўраджэнец Наваполацка Ігар Мароз, экс-начальнік Лепельскага райсельгасхарча, яго папярэднік узначаліў аграхолдынг у Глыбокім.

**Бешанковічы.** Падчас тушэння веснавога палу травы на полі ля вёскі Русілкі пажарныя знайшлі труп 90-гадовага гаспадара зямельнага ўчастка, які недарэчна загінуў.

**Браслаў.** Пасля мадэрнізацыі філіял Глыбоцкага МКК упершыню выпусціў за месяц 333 тоны прадукцыі, прадалі 447 тон цвёрдых, паўцвёрдых і мяккіх сыроў, пераважна ў Расію.

**Віцебск.** За 5 дзён згарэў ад пнеўманіі каранавіруса 58-гадовы палкоўнік пракуратуры ў адстаўцы, былы следчы па найважнейшых справах А. Высоцкі.

**Чашнікі.** У бытоўцы аднаго з прадпрыемстваў раёна знайшлі целы на падлозе двух мужчын ва ўзросце 55 і 61 гадоў, выпіўшых антысептык, старэйшы з іх пазней памёр.

**Глыбокае.** Услед за Браславам рэдкага для рэгіёна звярка-грызуна – арэшнікавую соню знайшлі і сфатаграфавалі настаўнікі Ломашаўскай дзетсадбазавай школы.

**Верхнядзвінск.** Супрацоўнік 50-гадовага вадзіцеля распачалі крымінальную справу. Ён падпітку, калі яго везлі ў бальніцу з траўмай галавы, разграміў машыну хуткай дапамогі.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Жыхар Браслава купіў праз інтэрнэт лазерны нівелір, але з Расеі яму даслалі рулетку і пясок

**Малады жыхар Браслава вырашыў набыць лазерны нівелір у адным з расійскіх інтэрнэт-крам і жорстка за гэта паплаціўся.**

Яго прыцягнула прапанова з коштам у чатыры разы ніжэй рынкавай. Тавар высылалі накладзеным плацяжом. Браслаўчанін аформіў заказ і стаў чакаць сваю куплю.

Неўзабаве ён атрымаў паведамленне аб паступленні пасылкі і аплаціў яе ў мясцовым аддзяленні пошты.

Аднак унутры замест дарагога электроннага прыбора апынулася звычайная рулетка і пара мяшочкаў з пяском для вагі.

З гэтымі набыткамі малады чалавек адправіўся ў раённы аддзел Следчага камітэта, каб напісаць заяву аб махлярстве, паведамляе газета «Браслаўская звязда».

*ННВ.*



**Лазерны нівелір BOSCH, кошт у Мінску – 1 169.00 руб.** *Ілюстрацыйнае фота.*

# САAЗ: Свет ужо не будзе ранейшым, каранавірус з намі надоўга

**Сусветная арганізацыя аховы здароўя заявіла, што пандэмія каранавіруса ў свеце далёкая ад заканчэння, нягледзячы на тое, што ў многіх краінах колькасць заражэнняў ідзе на спад, піша bbc.com.**

«Перад намі доўгі шлях. Гэты вірус будзе з намі яшчэ доўга», — заявіў кіраўнік САAЗ Тэдрас Аданам Гебрэйсус на прэс-канферэнцыі ў сераду ўвечары.

Паводле яго слоў, у той час, як у краінах Заходняй Еўропы сітуацыя стабілізуецца, трывожны рост колькасці заражэнняў назіраецца ў Афрыцы, Цэнтральнай і Паўднёвай Амерыцы, а таксама ва Усходняй Еўропе.

«Грамадзяне краін, дзе дзейнічаюць каранцінныя меры, адчуваюць зразумелае раздражненне ад таго, што ўжо некалькі тыдняў не пакідаюць дому. Але свет ужо не будзе ранейшым», — сказаў Гебрэйсус.

Вірус па-ранейшаму вельмі небяспечны, і, паводле ацэнак САAЗ, з рызыкай заражэння сутыкаецца вялікая частка насельніцтва па ўсім свеце. Па словах Гебрэйсуса, новая ўспышка захворвання можа пачацца ў любы момант.

*Паводле bbc.com.*

# Стрэліў з двух ствалоў, перазарадзіў і яшчэ раз стрэліў – у Докшыцах раўнівы муж расстраляў суперніка

**У Докшыцах раўнівы муж трыма стрэламі з дубальтоўкі забіў мужчыну, да якога прыраўнаваў жонку. Забойства адбылося пасля Новага года.**

Тады «ННВ» са спасылкай на прэс-службу міліцыі паведамлялі, што ўвечары 2 студзеня 44-гадовы жыхар Докшыц быў забіты прама на вуліцы райцэнтра.

Як усталявала следства, 47-гадовы жыхар мястэчка прыраўнаваў сваю жонку да яе знаёмага. Ён выклікаў мужчыну на размову, і яны сустрэліся ў двары аднаго з дамоў на вуліцы Палявой. Размова перарасла ў канфлікт, і раўнівы муж адкрыў агонь па суперніку з двуствольнай паляўнічай стрэльбы.

Як пазней установяць эксперты, і пакажа мясцовая жыхарка, якая бачыла забойства, спачатку абвінавачаны здзейсніў два стрэлы шротам здалёк, а затым зарадзіў стрэльбу патронам з куляй і стрэліў у візаві з адлегласці, якая не перавышае два метры.

Пасля гэтага ён патэлефанаваў у міліцыю і паведаміў, што забіў чалавека. Прыезду следча-аператыўнай групы ён дачакаўся на месцы злачынства. Мужчына страляў з гладкаствольнай паляўнічай стрэльбы, афіцыйна зарэгістраванай на яго імя. Мяркуючы па фота, гэта ТОЗ-34.

У выніку жыхару Докшыц было прад'яўленае абвінавачванне па частцы 1 артыкула 139 КК — забойства. Раней да крымінальнай адказнасці мужчына не прыцягваўся, суда ён чакае ў следчым ізалятары.

Расследаванне гэтай крымінальнай справы завершана, і яно перададзена пракурору для накіравання ў суд, паведамляе афіцыйны прадстаўнік УСК па Віцебскай вобласці Аксана Лазько.

*ННВ*








# «Адкрый сезон без парушэнняў!»

■ **Аляксандр Палілейка,** *старшы інспектар ДПС АДАІ МАБ Глыбоцкага РАУС старэйшы лейтэнант міліцыі*

**З 24 па 4 мая 2020 супрацоўнікі АДАІ МАБ Глыбоцкага РАУС праводзяць рэспубліканскую прафілактычную акцыю па папярэджанні дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам мотатранспарту «Адкрый сезон без парушэнняў!».**

Растлумачыць усе пытанні, якія цікавяць, нагадаць яшчэ раз Правілы дарожнага руху, якія тычацца непасрэдна вадзіцеляў мотатранспарту – галоўная задача праваахоўнікаў у рамках праведзенага мерапрыемства.

З надыходам вясны на вуліцах горада ўсё часцей можна заўважыць матацыклістаў, якія пачынаюць сваё актыўнае жыццё пасля доўгага зімовага прастою.

З лікам двухколавых жалезных коней, якія з'явіліся на дарогах, прапарцыйна расце і колькасць дарожна-транспартных здарэнняў з іх удзелам.

Так з пачатку 2020 года на тэрыторыі нашай вобласці зарэгістравана 1 ДТЗ, здзейсненае па віне кіроўцы двухколавага транспартнага сродку. Адбылося яно 6 сакавіка ў вёсцы Гурэц Чашніцкага раёна. 31-гадовы кіроўца, знаходзячыся за рулём матацыкла «ММВЗ», на закругленні дарогі не справіўся з кіраваннем, з-за чаго здзейсніў наезд на апору лініі электраперадач. Варта адзначыць, што малады чалавек у момант аварыі знаходзіўся ў нецвярозым стане і не меў права кіравання транспартнымі сродкамі ў прынцыпе. Матацыкліст атрымаў цялесныя пашкоджанні і быў шпіталізаваны. У сувязі з гэтым Дзяржаўтаінспекцыя заклікае вадзіцеляў двухколавых транспартных сродкаў да няўхільнага выканання Правілаў дарожнага руху. У прыватнасці, кіравацъ матацыклам неабходна ў мотшлеме і не перавозіць пасажыраў без яго, рухацца з пастаянна ўключаным блізкім святлом фар. Абавязковыя своечасовая рэгістрацыя транспартных сродкаў і праходжанне імі дзяржаўнага тэхнічнага агляду. Таксама недапушчальна садзіцца за руль мотатранспарту асобам, якія не дасягнулі 16 гадовага ўзросту і не маюць вадзіцельскага пасведчання катэгорыі АМ (мапеды) і падкатэгорыі А1 (матацыклы з рабочым аб'ёмам рухавіка, якія не перавышаюць 125 куб. см, і максімальнай магутнасцю, якая не перавышае 11 кілават). І толькі па дасягненні 18 гадоў дазваляецца кіраваць матацыклам з наяўным вадзіцельскім пасведчаннем катэгорыі.

# Рыбалоўная блешня можа стаць прычынай трагедыі

■ **А. М. Ішуцін,** *інспектар энергаінспекцыі электратэхнічнай групы Глыбоцкага Мра філіяла Дзяржэнерганагляду па Віцебскай вобласці.*




**Паважаныя рыбаловы, яшчэ не пачаўся сезон рыбнай лоўлі, а ўжо загінуў адзін рыбалоўаматар актыўнага адпачынку.**

6 красавіка 2020 года дыспетчару Уздзенскага РЭС паступіла паведамленне аб тым, што ў раёне в. Яршы пад апорай ВЛ-10 кВ, якая знаходзіцца на адлегласці каля 14 метраў ад ракі Нёман, ляжыць мужчына без прыкмет жыцця. Ён загінуў пры спробе ўздыму да правадоў ВЛ-10 кВ за блешняй, якая зачапілася за правады. На падкосе апоры №123 засталіся сляды ад спробы ўздыму на апору да правадоў.

У чарговы раз хочацца нагадаць, што правіламі ўсталяваны ахоўныя зоны электрычных сетак да 10 м ад праекцыі крайняга провада на зямлю для ЛЭП 10кВ, 15м для ВЛ-35 кВ і 20 м для ВЛ-110 кВ. Паважаныя рыбакі, звярніце ўвагу, што на апорах ЛЭП паблізу вадаёмаў размешчаны папераджальныя або забараняльныя плакаты: «Лоўля рыбы забаронена», «Ахоўная зона ЛЭП» або інш., якія інфармуюць аб небяспецы. Гэтыя плакаты работнікамі РЭС абнаўляюцца штогод. Папярэджваючы аб небяспецы, энергетыкі спрабуюць выратаваць вам жыццё. Будзьце і вы ўважлівыя, падыходзячы да ЛЭП любога напружання, неабходна памятаць аб ахоўнай зоне і пераканацца, што на шляху няма правіслых або абадраных правадоў. Пры іх выяўленні варта арганізаваць ахову месца пашкоджання, папярэдзіць усіх навакольных аб небяспецы набліжэння на адлегласць менш 8-10 м і неадкладна паведаміць аб пашкоджанні ў РЭС на тэлефон 2-53-84 або 101 у РАНС.

Перад тым, як раскласці вуду ці іншыя снасці і вырабіць іх закід, пераканайцеся ў тым, што вы знаходзіцеся ў бяспечным месцы, па-за зоны ЛЭП. Звычайна адлегласць ад бліжэйшых правадоў да зямлі або воднай роўнядзі вадаёма 6-10 метраў, а даўжыня вуды з аснасткай перавышае дадзеныя адлегласці ў некалькі разоў. Таму верагоднасць трапіць пад напружанне і ўздзеянне электрычнага току ўзрастае шматкроць. Часам нават няма прамога кантакту з токаводнымі часткамі ЛЭП, а, наблізіўшыся на недапушчальную адлегласць да іх, можна падвергнуць сябе і навакольных уздзеянню электрычнага току.

Уяўляе небяспеку рыбная лоўля пры набліжэнні або падчас навальніцы, так як вугляпластыкавая вудзільна і мокрыя леска з аснасткай з'яўляюцца добрым правадніком электрычнага току.

**Беражыце сваё жыццё!**

# 25 гадоў таму было аб'яўлена, што Язэп Пілсудскі – беларус

■ Уладзімір Скрабатун

**25 гадоў таму было аб'яўлена, што вядомы палітычны і вайсковы дзеяч Польшчы, кіраўнік польскай дзяржавы Язэп Пілсудскі (1867 — 1935) з'яўляецца беларусам.**

Сенсацыйную інфармацыю ў кастрычніку 1991 года паведаміла БЕЛТА, яе падхапілі ўсе тагачасныя беларускія СМІ. Адзначалася, што ў Галоўным архіўным упраўленні Рэспублікі Беларусь «знойдзены дакумент, які абвяргае існуючую думку, што вядомы палітычны дзеяч Польшчы 20-х — 30-х гадоў Юзаф Пілсудскі быў палякам». У пратаколе допыту 19-гадовага рэвалюцыянера 10 сакавіка 1887 года пазначана, што Пілсудскі сказаў: па нацыянальнасці ён беларус.

Пазней прафесар Аляксандр Хацкевіч у сваім артыкуле «Юзэф Пілсудскі. Беларус ці паляк?» працытаваў той дакумент: ***«Завуць мяне Осіп Осіпавіч Пілсудскі; ад роду маю 19 гадоў; паходжанне і народнасць дваранін, беларус...».***

Гісторык дапускаў, што род Пілсудскіх меў «беларускую каталіцкую галіну». Сам Язэп, які нарадзіўся на Віленшчыне, валодаў беларускай мовай і выступаў на ёй перад беларускай аўдыторыяй. У той жа час Хацкевіч адзначаў, што «нельга ідэалізаваць пратакольны адказ Пілсудскага ў час допыту аб тым, што ён «беларус», паколькі «ілжывыя адказы арыштаваных да рэвалюцыі па палітычных матывах рэвалюцыянераў, з мэтай збіць з панталыку паліцыю, добра вядомы».



### Якія месцы Глыбоччыны звязаныя з жыццём і дзейнасцю Юзафа Пілсудскага

Апошнія ўладальнікі Мосара былі Пілсудскія – крэўныя сваякі Юзафа Пілсудскага. Праўда, мы пакуль не ведаем ніводнай публікацыі, каб можна было станоўча сцвярджаць, што Юзаф Пілсудскі ў Мосар дакладна наведваўся. Але падобны факт мы, пакуль, не абмінаем.

Аднак у нас дастаткова звестак, каб з упэўненасцю сцвярджаць – Юзаф Пілсудскі ў Глыбокім быў. Незалезна ад гэтага глыбачане мусяць быць удзячныя Юзафу Пілсудскаму, які ў 1921-м, альбо 1922-м (розныя выданні называюць сваю дату) вярнуў Глыбокаму статус горада, які пры ім стаў сталіцай Дзісенскага павету. А гэта тэрыторыя па плошчы, як мінімум, роўная трох сучасных раёнаў: Глыбоцкага, частак сучасных Докшыцкага (без Бягомля), Шаркоўшчынскага, Мёрскага (без Мёраў але з г. Дзісна).

Газета "Kurjer Wileński" у №98 ад 1936 года змясціла інфармацыю аб тым, што глыбоцкія ўлады прынялі пастанову аб увекавечанні памяці маршалка Юзафа Пілсудскага: *«... у маёнтку Барыскавічы будзе змешчаная шыльда на памяць укрывання тут Маршалка Юзафа Пілсудскага пасля бязданьскай[1] акцыі ў 1908 г, разам з гэтым шыльда на будынку старостава ў Глыбокім на памяць аб побыце Маршалка ў 1922 годзе".*

Будынак староства існуе і сёння – руіна, якая прымыкае да царквы. Сядзібны дом у Барыскавічах таксама захаваўся. Ніякіх мемарыяльных шыльдаў я б не вешаў, але інфармацыйную шыльду побач з сядзібным домам паставіць можна. Ну, калі мы, зразумела, хочам з палякамі сябраваць. Можа яшчэ і грошай далі б на рэстаўрацыю, і саміх палякаў вазіць у Барыскавічы. Акрамя таго на плошчы 3 Мая (17 Верасня) быў пасаджаны дуб, з нагоды надання (вяртання) Пілсудскім Глыбокаму статусу горада. Цікава, напэўна, той дуб бальшавікі выкарчавалі?

1. 26 верасня 1908 г. баявая арганізацыя пад кіраўніцтвам Юзафа Пілсудскага правяла ўдалую аперацыю пад Бязданамі, напаўшы на паштовы вагон цягніка, які праязджаў праз аддаленую на 25 км ад Вільні станцыю. Баявікі здабылі каля 200 тыс. рублёў. Грошы пайшлі на аплату пазык арганізацыі і падтрымку арыштаваных і іх сем'яў.

## Глыбокае на старых фотаздымках

# Сонечны гадзіннік на сцяне кляштара кармелітаў

**У шмат якіх гарадах Свету ёсць гадзіннік, які з'яўляецца сімвалам горада. Напрыклад, самы вядомы ў Свеце гадзіннік – на вежы Біг-Бэн у Лондане. Быў такі старадаўні сімвал і ў Глыбокім.**

Пад гадзіннікамі прызначаюць спатканні закаханыя. Глыбокае мае свой гадзіннік у цэнтры горада, які з'явіўся гадоў 10 таму на воданапорнай вежы. Аднак нам вядомы і ранейшы даўні сімвал у Глыбокім – сонечны гадзіннік на сцяне былога кляштара кармелітаў босых. Гадзіннік не аднойчы трапляе ў кадр на здымках 1930-х гг. Тады ў той частцы будынка кляштара кармелітаў, які заставаўся не разбураным у 1910-я гг., размяшчалася павятовае староства ці, як бы сёння сказалі, райвыканкам.

Між тым, мы да гэтага часу не мелі здымка сонечнага гадзінніка буйным планам. Такі здымак (левы) знайшоў нядаўна краязнаўца Кастусь Шыталь. Да нядаўняга часу мы аб сонечным гадзінніку мелі ўяўленне толькі здалёку, і такім прыкладам ёсць правы здымак.

Гадоў пяць таму аўтар гэтых радкоў праходзіў побач з будынкам кляштара. Угледаючыся ў сцяну, заўважыў амаль сцёртыя часам лініі. Так, гэта лініі ад сонечнага гадзінніка, якія ўсё яшчэ заставаліся бачныя.

Натуральна, сонечны гадзіннік варта аднавіць. Аднак сёння, перадусім, стаіць задача аднаўлення самога будынка, які ўяўляе цяпер жахлівую руіну. Трэба не забываць, што будынак носіць статус помніка архітэктуры нацыянальнага значэння.

*Уладзімір Скрабатун.*






# Знойдзеныя невядомыя раней публікацыі класіка беларускай літаратуры

**Знойдзеныя невядомыя раней публікацыі класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча.**



Публікацыі зробленыя пад псеўданімамі. Класік беларускай літаратуры Максім Багдановіч пісаў пад псеўданімамі «Ів. Февралев» і «М. Б.». Так ён падпісваў свае нататкі ў ліберальнай яраслаўскай газеце «Голос».

Аб гэтых публікацыях за 1916 год стала вядома, калі Дзяржархіў Яраслаўскай вобласці адкрыў свабодны доступ да аблічбаваных матэрыялаў дарэвалюцыйнай перыёдыкі. Цяпер яе вывучаюць у Літаратурным музеі Максіма Багдановіча.

— *«Падпісаны псеўданімам «Иван Февралевъ» пяць публікацый. Яны вельмі разнастайныя. Гэта і рэпарцёрскія нататкі пра судовае пасяджэнне, пра студэнцкую сталовую, небывалую гразу. Да таго ж, мы выявілі некалькі матэрыялаў, якія прысвечаны так званаму «інтымнаму тэатру»,* — кажа Міхаіл Бараноўскі, загадчык Літаратурным музеем Максіма Багдановіча.

Чатыры нататкі Багдановіча падпісаныя «М. Б.».

Інфармацыя па яшчэ трох псеўданімах праяўляецца. — «Зритель», «Эхо», «Rion» — стаяць у нас пад пытаннем. Гэта псеўданімы, якія называе Сяргей Сцяпанавіч Канығін, былы супрацоўнік газеты «Голос». Справа ў тым, што з Каныгіным звязваліся, калі ен быў ужо чалавекам сталага веку, бліжэй да 80 гадоў, — кажа Ірына Мышкавец, навуковы супрацоўнік Літаратурнага музея Максіма Багдановіча.

*Паводле tut.by*

# Шмат цікавай садавіны можна вырошчваць у нашых садах, але мы яе завозім з заморскіх краінаў

Уладзімір Скрабатун

**Усё ж адважыўся! Набыў сабе два саджанцы: хурмы Расіянка і нектарына Біг Тот. У нас на Беларусі нямала сайтаў, якія прапануюць набыць саджанцы пакуль яшчэ экзатычных для нас пладовых дрэваў. Заўважу пры гэтым, што той жа персік для Глыбокага ўжо не экзотыка! Шмат ужо ў каго ён расце і пладаносіць, і пры гэтым ён – розных гатункаў і розных смакавых якасцяў.**

Натуральна, выбіраў той сайт, які мае пункт дастаўкі – "Глыбокае". Бо іншыя такога пункта як "Глыбокае" не маюць, а прапануюць паехаць забраць пасылку ў Полацк ці якую Смаргонь, альбо забраць самавывазам. А самавывазам з Мінска – на адным сайце, з Віцебска – на іншым. А тут – пункт дастаўкі Глыбокае, вул. Маскоўская, 88-а (там, дзе была раней крама "Алімп", цяпер выкупленая мінчанамі). Замовіў. Два дрэўцы абышліся ў 51 рубель, з якіх 5 рублёў узялі за дастаўку. Магла б дастаўка быць і бясплатная, але мы так і не змаглі аплаціць ніводнай карткай, дамовіліся з аплатай на месцы.

Пішу гэта ўсё не для таго, каб мяне пахвалілі за рызыку. Яшчэ трэба пачакаць – ці ачуняюць дрэўцы, ці прыжывуцца? Пра хурму шмат казаць не буду, пішуць у анатацыі, што гатунак Расіянка пераносіць да – 35° мароза. А вось нектарын Біг Топ, які выведзены ў ЗША – усе садаводы хваляць. Сакавіты, мядовы смак, шчыльная хрумсткая мякаць… Культывіруецца масава фермерамі ЗША і Канады. Вырошчваецца ў прамысловых маштабах. Пра ЗША прамаўчу, бо там ёсць тэрыторыі, дзе і пальмы растуць. А вось Канада мае падобны клімат, як і ў нас.



Нектарын Біг Топ.

Навошта я ўсё гэта пішу? Раней, у часы СССР, куды не выедзь з Глыбокага – усюды сады! Вялізныя сады былі і ў самім Глыбокім: вуліца Садовая – на месцы сада кансервавага завода, вялікі сад быў на выездзе з Глыбокага па вул. Горкага (цяпер там катэджная забудова). Застаўся вялікі і кінуты сад па дарозе на Верхняе – перад Шунеўцамі. Кінуты агромністы сад у вёсцы Мнюта, такі ж вялікі, кінуты сад у Запруддзі! Гэта толькі тое, што прыйшло адразу на памяць. Усё загубілі! Загубілі калгасы! Загубілі вёскі! За 26 гадоў праўлення аднаго вусатага чалавека з лысінай – настала катастрофа. Народ з'язджае "за бугор", перадусім, моладзь. Калгасы навязалі гарадскім прадпрыемствам, а цяпер яшчэ гэтая жахлівая эпідэмія, завязуць гараджане тую заразу ў апусцелыя вёскі, апошнія тубыльцы вымруць.

Калі б 26 гадоў таму ў нас была абвешчана свабода прадпрымальніцтва, напрыклад, фермерства, з дзяржаўнай падтрымкай, то сёння мы не мелі б кінутых цэлых вёсак са шматкватэрнымі дамамі.

Жывеш у вёсцы? Ідзі працаваць у калгас! За 75 рублёў у месяц? Не хачу! Гэта не маё! Я хачу быць садаводам-прыватнікам! А нават і фермерам! Хачу пасадзіць сад са 100 дрэў нектарынаў. Буду пастаўляць прадукцыю ў гіпермаркеты Мінска! Заключу дамову з санаторыем "Пліса" – буду пастаўляць на стол свежую садавіну. Хачу зарабіць грошай – пабудаваць 2-павярховы катэдж з усімі выгодамі, мець круты пазадарожнік, а зімой адпачываць на Мальдзівах. А вось і хрэн табе! Шмат захацеў! Табе адна дарога – у калгас, жыві, як усе – па 3 месяцы без заробку. І будзеш яшчэ бегаць на датэрміновае галасаванне!

Зразумела, нектарынавы сад - гэта толькі як прыклад. Можна ж вырошчваць і грыбы, і спаржу, ды гадаваць стронгу ў сажалцы, а то і статак бычкоў. Проста мець такі высокапрыбытковы сямейны бізнес. І жыць у вёсцы, нікуды не з'язджаць. Але наша дзяржава не зацікаўленая, каб на гэтай зямлі былі гаспадары. У нас адзін гаспадар, які ўсё ведае і дае ўсім указанні: калі араць, калі сеяць, калі жаць...

Мы ўжо і яблыкаў сваіх не можам вырасціць, завозім з Польшчы, што ўжо казаць пра нектарыны – вязём з Турцыі. Ды і агуркі кансерваваныя прадаюць у нашых крамах з В'етнама і Індыі.

Неаднойчы мы змяшчалі матэрыялы аб жыцці Глыбоччыны ў 1930-я гг… У Плісе, напрыклад, быў створаны малачарскі кааператыў, які да прыходу бальшавікоў налічваў пад 1000 чалавек. У гэты лік уваходзілі і людзі, якія гадавалі кароў і пастаўлялі малако кааператыву. Было закуплена фінскае абсталяванне, кааператыў вырабляў сыры, якія ішлі на экспарт. Вырабляўся нават кароль сыроў – сыр Эменталь, перыяд саспявання якога да 12 месяцаў.

Выкладчыкі віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя прыязджалі ў Плісу, вывучалі досвед кааператыву, пісалі навуковыя працы, выдавалі кнігі. Гэта быў прыклад, якіх поспехаў можна дасягнуць пры правільных законах і свабодзе прадпрымальніцтва. А сёння адзін калгаснік давёў краіну да катастрофы, з якой збягае народ...

Гадоў дзесяць таму я заходзіў у будынак Плiскага сельсавета. Даведаўся, што да развалу СССР Пліса ледзьве не перакрочыла мяжу ў 1000 жыхароў. На момант майго візіту сказалі, што тут жыве ўжо ці 400 жыхароў. А колькі цяпер? 300? 200?

# 45-гадовая медсястра памерла ад пнеўманії у Докшыцах, дзе зафіксавалі ўспышку каранавірусу

**Гэта першая смерць медычнага супрацоўніка ў райцэнтры Докшыцы Віцебскай вобласці. Вядома, што медсястра Ксенія Р. працавала ў цэнтральным раённым шпіталі. Гэтую інфармацыю Свабодзе пацвердзілі адначасова некалькі медыкаў з Докшыцаў.**

Гэты райцэнтар з насельніцтвам 7 тысяч чалавек застаецца адным з асяродкаў распаўсюду каранавірусу ў Віцебскай вобласці.

Афіцыйных камэнтароў пакуль няма. У прыёмнай Докшыцкага цэнтральнага раённага шпіталя кінулі тэлефонную трубку, калі пачулі пытаньне карэспандэнта Свабоды.

Цяпер нам вядома, што памерлай медсястры было 45 год. У апошнія дні яна знаходзілася ў цяжкім стане і была падключаная да апарату штучнай вэнтыляцыі лёгкіх. Акрамя пнеўманіі, яна мела іншыя, хранічныя захворванні.

Пакуль няма інфармацыі, ці быў у медсястры пацверджаны каранавірус.




Раней Свабода пісала, што ў шпіталі ў Докшыцах ляжаць некалькі медыкаў, хворых на COVID-19.

Па стане на 17 красавіка ў Докшыцах былі пацверджаныя 72 выпадкі захворвання на COVID-19. Агулам у Беларусі каранавірус выяўлены ў 419 медыкаў.

У сувязі з эпідэміяй каранавірусу ў Докшыцкім раёне прынятыя надзвычайныя меры. У гарадскіх школах Докшыцаў і Бягомля вучняў перавялі на дыстанцыйнае навучанне. Алег Кавалёнак, старшыня райвыканкама, распавядаў, як у раёне яшчэ даюць рады эпідэміі:

- закрылі рынкі, лазні, водна-аздараўленчы цэнтар;
- забаранілі правядзенне масавых мерапрыемстваў;
- з 13 красавіка збіраліся перайсці на дыстанцыйнае навучанне ў школах Докшыц і Бягомля, але Міністэрства адукацыі падоўжыла вясновыя канікулы да 18 красавіка;
- камбінат бытавога абслугоўвання і школы гораду шыюць маскі;
- адзінокім старым людзям дастаўляюць тавары першай неабходнасці сацыяльныя работнікі і валанцёры БРСМ і Чырвонага Крыжа.

*Антон Трафімовіч, журналіст Радыё Свабода.*



# Ужо 24 чалавекі заразіліся каранавірусам на Глыбоччыне — у 6 разоў павялічылася колькасць хворых усяго за тыдзень

**Яшчэ адзін ачаг каранавіруснай інфекцыі разгараецца на захадзе Віцебскай вобласці — у Глыбоцкім раёне ўжо 24 выпадкі заражэння. Захворванне вырасла на 500%.**

У гэтым рэгіёне, які знаходзіцца паміж Пастаўскім і Докшыцкім раёнамі, дзе эпідэміялагічная абстаноўка ўжо даўно няшчасная, колькасць тых, хто захварэў, пачала імкліва расці.

Яшчэ 21 красавіка мы паведамлялі, што ў Глыбоцкім раёне зарэгістравана толькі 4 выпадкі COVID-19, прычым першы пацыент ужо ачуняў і выпісаўся.

Але, ужо на наступны дзень, колькасць выяўленых выпадкаў у Глыбокім падвоілася, а яшчэ на чарговы дзень дадаўся дзявяты выпадак. На 26 красавіка ў гэтым раёне ўжо зарэгістравана 24 выпадкі, то бок, за 6 дзён колькасць захварэлых каранавіруснай інфекцыяй вырасла ў 6 разоў. У 6 пацыентаў з каранавіруснай інфекцыяй развілася пнеўманія.

Адзначым, што Докшыцкі і Пастаўскі раёны ўжо працяглы час не паведамляюць абноўленай інфармацыі аб эпідэміялагічнай сітуацыі. У першым, па апошніх наяўных дадзеных, было 72 выпадкіа4 COVID-19 (на 17 красавіка), у другім — 32 (на 22 красавіка).

Усяго на 27 красавіка ў Беларусі зарэгістравана 11 289 чалавек з станоўчым тэстам на COVID-19, паведамляе Міністэрства аховы здароўя. 75 пацыентаў памерлі, 1740 чалавек ачунялі і выпісаны.

*Сяржук Серабро*

